*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 39 (527) 3 КАСТРЫЧНІКА 2001 г.

"20" верасня 2001 г. № 501

## *Заява сакратарыяту ТБМ*

### з нагоды спробаў закрыцця Светлагорскага філіяла Нацыянальнага ліцэя імя Якуба Коласа

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" выказвае свой рашучы пратэст у сувязі з рашэнням уладаў г. Светлагорска зачыніць адзіную ў горадзе беларускамоўную навучальную ўстанову – філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Пад удар пастаўлены лёсы дзясяткаў адораных маладых грамадзян Беларусі, а таксама іх педагогаў. ТБМ ацэньвае гэты абуральны факт, як працяг антызаконнага наступу на і без таго нешматлікія навучальныя ўстановы краіны, якія працуюць на мове тытульнай нацыі.

Светлагорскі філіял Нацыянальнага ліцэя імя Якуба Коласа быў адчынены ў 1992 годзе і ажыццявіў ужо пяць выпускаў, зарэкамендаваўшы сябе як лепшая ў горадзе сярэдняя навучальная ўстанова. Практычна ўсе выхаванцы філіяла ліцэя паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы нашай краіны, напрыклад, у 2001 г. з 20 выпускнікоў студэнтамі ВНУ сталі 19. Акрамя таго, выпускнікі ліцэя працягваюць вучобу ў Германіі, ЗША, Індыі, Нарвегіі, Расіі, Францыі.

Рашэнне зачыніць філіял ліцэя выклікала законны пратэст грамадскасці Светлагорска. Пачынаючы ад 11 верасня ліцэісты разам з педагогамі, бацькамі і грамадскасцю праводзяць пікетаванне гарвыканкаму, адстойваючы свае канстытуцыйнае права навучацца на роднай мове. Менскай гарадской арганізацыяй ТБМ пададзена заяўка на пікетаванне Міністэрства адукацыі дзеля таго, каб выказаць салідарнасць з законнымі патрабаваннямі ліцэістаў, іх бацькоў і педагогаў.

Звяртаем увагу на тое, што дзеянні Светлагорскага гарвыканкаму па ліквідацыі адзінай у горадзе беларускамоўнай навучальнай установы пярэчаць не толькі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, але і перадвыбарчай праграме А. Лукашэнкі, дзе падкрэсліваецца неабходнасць захавання і падтрымкі мовы тытульнай нацыі краіны, у тым ліку і ў сферы адукацыі.

Таварыства беларускай мовы патрабуе ад уладаў г. Светлагорска, а таксама ад Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь захаваць гэтую ўнікальную ўстанову, надаўшы філіялу статус самастойнага гарадскога беларускамоўнага ліцэя.

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

---

"27" верасня 2001 г. № 505

**Намесніку прэм'ер-міністра**
**Рэспублікі Беларусь**
**Сп. У. Н. Дражыну**

### Шаноўны Ўладзімір Несцеравіч!

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны віншуе Вас з прызначэннем на вельмі высокую і адказную пасаду ў гэты нялёгкі і пераломны час для нашай Бацькаўшчыны. Спадзяёмся, што Вы зробіце ўсё магчымае для надання беларускай мове, мове тытульнай нацыі нашай краіны, рэальнага статусу дзяржаўнай мовы.

Мы звяртаемся да Вас у сувязі з сітуацыяй, якая склалася вакол Светлагорскага беларускага ліцэя на Гомельшчыне.

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" выказвае свой рашучы пратэст у сувязі з рашэннем уладаў г. Светлагорска зачыніць адзіную ў горадзе беларускамоўную навучальную ўстанову – філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

Светлагорскі філіял Нацыянальнага ліцэя імя Якуба Коласа быў адчынены ў 1992 годзе і ажыццявіў ужо пяць выпускаў, зарэкамендаваўшы сябе лепшай у горадзе сярэдняй навучальнай ўстановай. Ліквідацыя філіяла ліцэя, якая праводзіцца пад выглядам "рэарганізацыі", а менавіта далучэння да адной з сярэдніх школ, з'яўляецца абуральным фактам наступу на беларускамоўную адукацыю.

Рашэнне зачыніць гэтую навучальную ўстанову выклікала пратэст грамадскасці Светлагорска. Пачынаючы ад 11 верасня, ліцэісты разам з педагогамі, бацькамі і грамадскасцю праводзяць пікетаванне гарвыканкаму, адстойваючы свае канстытуцыйнае права навучацца на роднай мове.

Звяртаем Вашу ўвагу на тое, што дзеянні Светлагорскага гарвыканкаму па ліквідацыі адзінай у горадзе беларускамоўнай навучальнай установы пярэчаць не толькі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, але і перавыбарчай праграме А.Р.Лукашэнкі, дзе падкрэслівалася неабходнасць захавання і падтрымкі мовы тытульнай нацыі краіны, у тым ліку і ў сферы адукацыі.

Просім Вашага тэрміновага ўмяшання не толькі дзеля захавання прэстыжнай беларускамоўнай навучальнай установы, але і падтрымкі беларускамоўнай адукацыйнай прасторы Беларусі ўвогуле.

З павагай,
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

---

### Шаноўны Ніл Сымонавіч!

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны шчыра віншуе Вас, свайго першага старшыню, з 70-годдзем з дня народзінаў.

Вы запачаткавалі жыццё нашай арганізацыі, узначалілі яе ў паваротны момант беларускай гісторыі. Вашае імя пісьменніка, грамадзяніна, палітыка, педагога паклікала ў шэрагі ТБМ тысячы неабыякавых да роднай спадчыны людзей, якія сёння актыўна бароняць інтарэсы нацыі.

Вы засталіся вернымі той першай клятве роднай мове, што прагучала ў аднайменным вершы ў 1947 годзе. Сёння ў Вашай асобе мова мае мужнага змагара і магутнага абаронцу, і сотні Вашых вучняў, выхаваныя слынным прафесарам універсітэта ў прасветлай любові да роднага слова, стаяць поплеч у вялікім і святым паходзе па Беларушчыну.

У гэтай дарозе на мяжы тысячагоддзяў Вашыя дальнабачнасць мысляра, плённасць творцы зазырчэлі найярчэй і наймагутней, бо Вас абрала заступнікам і Ваш талент сілкуе сама Маці-Беларусь.

Зычым вам мноства плённых дзён і радкоў, верных сяброў і суайчыннікаў, зычым Вам стацца сведкам панавання мовы нашай, дайсці хай сабе і цераз вятры і грамы да Беларусі.

Хай аберагае Вас зямля родная!
**Сакратарыят ТБМ**
**30.09.01.**

### Паважаны Ніл Сымонавіч!

Сардэчна віншуем Вас з 70-годдзем!

Хацелася б шчыра падзякаваць за творчую спадчыну, якую вы перадалі нам, сваім чытачам. Гэта шэраг Вашых выдатных кніг паэзіі, зборнікі сатыры і гумару, вершы і паэмы для дзяцей, Ваш цудоўны раман у вершах "Родныя дзеці", аповесць "Перажуўшы вайну", кнігі па літаратуразнаўству і фалькларыстыцы. Мы ведаем Вас і як перакладчыка.

Мы захапляемся align рознабаковасцю Вашага таленту, актыўнасцю ў грамадскай дзейнасці.

Вы зусім неабыякавыя да лёсу роднай мовы і культуры, да духоўнай спадчыны народа.

Ва ўсёй Вашай творчасці і грамадскай дзейнасці мы чуем Ваш голас супраць бездухоўнасці і абыякавасці стаўлення да нацыянальнай культуры. Захапляемся публіцыстычнасцю, бескампраміснасцю, прамоўніцкай інтанацыяй і ў той жа час унутранай засцярожаннасцю, шчырасцю, спавядальнасцю, тонкім лірызмам Вашых твораў, якія вабяць не толькі сваёй мастацкай дасканаласцю і прыгажосцю гучання, але і вастрыём тых праблем, якія Вы ўздымаеце ў іх.

Доўгіх Вам гадоў жыцця, добрага здароўя, плёну ў творчай працы!

**ЖЫТКАВІЦКАЯ РАЁННАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ТБМ імя Ф. СКАРЫНЫ.**

---

"26" верасня 2001 г. № 504

**Галоўнаму рэдактару**
**"Свободных новостей"**
**Сп. Аляксандру Уліцёнку**
**220013 г. Менск, вул. В.Харужай, 2.**

### Паважаны спадар Аляксандр!

Сябры ТБМ уважліва сачылі і сочаць за падзеямі, што разгарнуліся пасля прэзідэнцкіх выбараў вакол Вашай газеты.

Мы рашуча падтрымліваем тую грамадзянскую пазіцыю і сапраўдны плюралізм думак, якую рэдакцыя праводзіць на старонках адной з самых папулярных у Беларусі недзяржаўных газет.

Спадзяючыся, што Вы і надалей будзеце падрабязна асвятляць у "Свободных новостях" надзённыя пытанні беларускай гісторыі і культуры. Хацелася б болей бачыць у Вашай газеце цікавых беларускамоўных матэрыялаў і нататак.

Жадаем Вам поспехаў і творчага натхнення ў Вашай нялёгкай, але патрэбнай справе!

З павагай,
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"**
**Алег Трусаў.**

---

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Сафро Марыя (Масква) – 5.000 руб.
2. Шкірманкоў Фелікс (Слаўгарад) – 2.000 руб.
3. Волчак Андрэй (Польшча) – 200 DM
4. Сазонаў Анатоль (Менск) – 1.000 руб.
5. Плакса Уладзімір (Менск) – 2.000 руб.

**Севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня"**

1. Манько Алеся – 30 грн.
2. Васюніна Ганна – 20 грн.
3. Карэцкі Анатоль – 10 грн.
4. Бас Кацярына – 5 грн.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

# Выбары ў раддоме

## (з дзённіка назіральніка за датэрміновым галасаваннем)

**Сённяшнім уладарам**

*Для вас,*
*хто сёння ўладарыць,*
*я не прашу ў Бога кары,*
*Хіба адно прашу я ў Бога,*
*каб вы жылі надзвычай доўга*
*і каб пабачылі (о, мары!),*
*як можна ўрэшце ўладарыць*
*і дома быць гаспадарамі,*
*у родным краі,*
*дзе над намі*
*не вісне прывід чужаземны...*
*Ды гэта іншая ўжо тэма.*

*А я скажу ізноў пра тое,*
*каб вас яшчэ раз супакоіць:*
*я не прашу ў Бога кары*
*для ўсіх, хто сёння ўладарыць.*

***Анатоль Зэкаў.***

Такіх выбараў, як сёлета, на Беларусі яшчэ ніколі не было. Не выбары, а цэлая вайна. Радыё і тэлебачанне праз сваіх нанятых палітолагаў ды журналістаў тыпу Сяргеева, Дудзінова, Новіка, Зімоўскага, Казіяткі, слыннай Чайкі, на чым свет стаіць хаялі прэтэндэнтаў. Прэтэндэнты таксама не скупіліся на раскрыццё розных заганаў цяпер дзейнага прэзідэнта і ягонага рэжыму. Але вось пачаліся датэрміновыя выбары. Мяне папрасілі быць незалежным назіральнікам на 24-ым участку на Старабарысаўскім тракце. Надавалі розных папераў, актаў, каб я ў іх фіксаваў розныя парушэнні. А вось гэтага мне якраз не вельмі хацелася рабіць: гэта мне проста не падыходзіць з мае прыроды. Але мяне, як чалавека эмацыйнага, эсэіста, усцешыла, што назіранне маё будзе на выбарчым участку, які размясціўся ў будынку абласнога раддома.

Гэта ж сімвалічна – і выбарчы ўчастак у раддоме, і галасаванне ў раддоме. У раддоме, у раддомах жа – наша будучыня. То якая яна будзе? Гэта залежыць ад выбару новага прэзідэнта.

Дваццаць чацвёрты выбарчы ўчастак асаблівы. Ён, як я ўжо казаў, размясціўся ў раддоме. І выбаршчыкі тут асаблівыя, незвычайныя – парадзіхі. Але не толькі яны. Яшчэ і студэнты Вышэйшага каледжа сувязі, які таксама размясціўся ў абшары Старабарысаўскага тракта. Да дваццаць чацвёртага ўчастка належаў і раддомаўскі інтарнат-маласямейка.

Усяго на дваццаць чацвёртым выбарчым участку было зарэгістравана семсот дваццаць сем выбаршчыкаў.

То як жа праходзілі выбары на згаданым участку?

Першая, як гэта не дзіўна, пацягнулася на выбарчы ўчастак у аўторак, у першы дзень датэрміновых выбараў, моладзь. Гэта дужа зацікавіла мяне. Пры нагодзе пацікавіўся, што іх змушае галасаваць датэрмінова: "А нам у суботу выхадны, і мы хочам паехаць..." Ну, што ж – вы хочаце ехаць, то едзьце. Вядома, карцела пацікавіцца, за каго яны збіраюцца аддаць свае галасы. Але пра гэта пытацца забаронена і камісіі, і наглядальнікам.

Што ж, забаронена дык забаронена, будзем рабіць тое, што дазволена: наглядаць, думаць, разважаць, інтуітыўна адчуваць ход выбараў.

За першы дзень прагаласавала няшмат: чалавек за дваццаць і, як я згадваў, гэта ўсё яшчэ няспакушаная жыццём моладзь. Шмат хто з іх галасуе першы раз, і іхнія пашпарты яшчэ на прапісцы, то пытаюцца, ці дастаткова для атрымання бюлетэня студэнцкага білета. "Дастаткова!" – кажуць ім у камісіі. Пачынаецца няхітрая працэдура галасавання. Знешне праходзіць звыкла і спакойна. Але ці так ужо спакойна? Гэта вонкава здаецца спакойна, а насамрач напружана. Здаецца: што там сесці і пстрыкнуць усяго-наўсяго адну невялічкую птушачку насупраць прозвішча аднаго з трох кандыдатаў: пстрык ручкаю – і гатова, і ўсё галасаванне. Але за гэтай птушачкай наша будучыня. Таму моладзь перш, чым пстрыкнуць асадкай птушачку, думае...

Вось зайшлі два юнакі. Яны не пайшлі ў кабіны, а селі за аўдыторную парту паблізу наглядальнікаў і схіліліся над бюлетэнем. Яшчэ раз перачыталі імёны кандыдатаў у прэзідэнты, іхнія рэгаліі і пасады. І вось нарэшце ўзмах ручкаю на тую адзіную і запаветна адказную птушачку. Мне падумалася: вось зараз я і ўбачу, за каго яны прагаласавалі, але не! Першы з іх перакрыў бюлетэнь левай прыслоненай да шчакі рукою і мажлівасць убачыць яго галасаванне для мяне знікла. Але па правай руцэ я запрыкмеціў: ручка лягла на сярэдзіну бюлютэня. А пасярэдзіне бюлетэня па алфавіце прозвішча Ганчарыка. Юнакі пайшлі кідаць бюлетэні ў скрынкуу. А мне тым часам прыгадалася размова дзвюх настаўніц на чыгуначным прыпынку Седча.

- І што рабіць з моладдзю, - кажа адна з іх, - яна ўся супраць Лукашэнкі.

- Тое ж і ў мяне, - кажа другая, - з-за гэтага Лукашэнкі ў мяне з сынам адны сваркі...

Першы дзень датэрміновага галасавання нічым асаблівым не вызначыўся. Хіба толькі кінулася на вочы, што на шкляных дзвярах на выбарчым участку з абодвух бакоў красаваліся агітацыйныя Лукашэнкавы плакаты. Тыя самыя, на якіх сп. Лукашэнка трымае дзяўчынку на руках. На гэта звярнула ўвагу старшыні выбарчай камісіі Людміла Дзіцэвіч, адказная за назіранне ў Партызанскім раёне: "Калі вешаць, дык вешаць усіх трох". На што старшыня выбарчага ўчастка спадарыня Ірына Нагібіна, дарэчы, яна галоўны доктар раддома, адказала: "Што нам далі, тое і павесілі, развесілі!".

Ну, што ж, хай павісіць. Хаця, калі добра разважыць, дык заўвага праўдзівая, справядлівая, слушная. Ну, але хай пакуль павісіць: пераначуем – болей пачуем!

Другі дзень датэрміновых выбараў таксама на 24 участку асабліва нічым не вызначыўся. Па-ранейшаму рэдкім струменчыкам цадзілася моладзь і быў час на самыя розныя выбарчыя развагі. Вось зайшла купка моладзі. У іхніх руках запрашэнні на галасаванне. Яны спрэс на рускай мове. Наша родная мова цалкам праігнаравана. Хіба гэта не факт для роздуму?! Чаму так? За што ж я буду галасаваць? Ці не тоіцца за гэтым і на будучыню палітыка ігнаравання ўсяго роднага, нацыянальнага, як гэта робіцца зараз. Чаму ж тым, хто праігнараваў на запрашэннях нашу мову, не падумалася, што ён зняважыў сваім такім запрашэннем. Такога і за камуністамі не было. У маім зборы з дзесятак такіх запрашэнняў з таго часу, і ўсе яны на нашай роднай мове. Нават падчас акупацыі пісалі: "Achtung! – Увага!", а тут поўнае ігнараванне роднай мовы. І гэта ў краіне, якая лічыцца незалежнай. У паўзе паміж галасаваннем з гэтай нагоды згадаліся і развагі сп. А. Лукашэнкі пра нашу мову пад час яго выступу другога верасня ў Мсціслаўе, дзе ён казаў, што мы павінны любіць і шанаваць родную мову. Гэта жа, як і рускую, бо маўляў, і мы, беларусы, нямала ўклалі ў гэтую мову. Дык дзе ж тое шанаванне?! Калі ўжо на тое пайшло, дык хоць бы дзеля прыліку выдалі выбарчае запрашэнне на дзвюх мовах, дзеля павагі да краіны Беларусі, дзеля павагі да тых, у каго адна родная мова. А іх, паводле перапісу 1999 года, больш за восемдзесят адсотак. Ну, але як разгортваліся падзеі на 24-ым выбарчым участку на трэці дзень, 6-га верасня? Як ні дзіўна, гэта быў адзін з самых інтэнсіўных з усіх трох маіх назіральніцкіх дзён датэрміновага галасавання. Моладзь з самай раніцы ішла на выбарчы ўчастак купкамі: то па два, тры, а то і чатыры, і пяць, і нават шэсць чалавек. Уражанне было такое, нібы хто нябачны іх адкульсь пампуе і пампуе. Падумалася нават, калі гэтак яшчэ пойдзе ў пятніцу і суботу, то дзевятага верасня не будзе чаго рабіць. Хіба адно з ранку застанецца схадзіць да парадзіх і падлічыць галасы...

А тым часам, дакладна ў дзесяць пяцьдзесят восем – шостага верасня – я ўсе падзеі на ўчастку фіксаваў пахвілінна – на выбарчы ўчастак завітала якаясь кабета і пачала гартаць спісы выбаршчыкаў, цікавіцца, хто прагаласаваў ужо, а хто яшчэ не. Пагаварылі пра нейкага Юрку, яшчэ пра якогась Юнцэвіча, і яшчэ пра кагось, хто "далёка жыве..." Гэта "далёка", здаецца, прагучала з іроніяй... Затым тая кабета, якая гартала спісы, сказала:

- Ну, ладна! Пайду, дзевачак сваіх праінструктырую.

Я пацікавіўся, хто гэтая спадарыня. Мне адказалі:

- Наш камендантша! Камендантша раддомаўскага інтарната-маласямейкі.

Тады зрабілася ўсё, а калі не ўсё, то шмат чаго зразумела.

Прыгадалася, як падчас парламенцкіх выбараў камендант тэлевізійнага інтарната, што на вуліцы Гамарніка, проста гонам гнаў сваіх інтарнатаўцаў на галасаванне, пагражаючы ледзь не паведамленнем на працу. А студэнцкая моладзь усё падыходзіла і падыходзіла. Дзесьці гадзіне адзінаццатай нечакана высветлілася, што ў выбарчай камісіі скончыліся бюлетэні. Я не зусім зразумеў: як гэта бюлетэні скончыліся?! Напярэдадзе яшчэ цэлы дзень галасавання!.. Мне патлумачылі, што бюлетэні ёсць, але яны ў сэйфе, пад аховай міліцыянта, а той міліцыянт, як на тое ліха, узяў і некуды на хвіліну адлучыўся. Купцы студэнтаў давялося трошкі пачакаць, пакуль шукалі таго міліцыянта.

Мне з усяго гэтага адно здзівіла, што бюлетэні не ў выбарчай камісіі, а ўчастковага міліцыянта. Мо гэтак і заўсёды было, але я гэтага не ведаў.

Цікавы і такі эпізод. У 12.15 прагаласаваў адзін юнак. Прагаласаваў і замарудзіў на хвілінку ля выбарчай камісіі.

- Што яшчэ? – пацікавіліся ў камісіі.

- Мне б якую паперку, што я прагаласаваў... Каб мой куратар не турбаваўся...

Дзесьці апоўдні на 24-ым выбарчым участку адбыўся і такі цікавы эпізод. Малады выбаршчык, прагаласаваўшы, спыніўся ля тых шкляных дзвярэй на выбарчым участку, пра якія згадвалася на самым пачатку, - з агітацыйным Лукашэнкавым плакатам:

- Усё зразумела, як павінны прайсці выбары! – і пайшоў.

І трэба сказаць да гонару выбарчай камісіі плакаты гэтыя былі тут жа скручаныя ў трубку. Да перапынку шостага верасня на 24 выбарчым участку прагаласавала больш за шэсцьдзесят юнакоў і дзяўчат. І толькі адна сталая жанчына, якая сказала пра сябе – дзіця вайны. Быў і такі момант. Выбаршчык зайшоў у кабіну прагаласаваць, паставіць сваю птушку, птушку за лёс нашага народу. Але праз нейкую хвілю вынырнуў з кабіны:

-Я не знайшоў графы "Супраць усіх"!

- А там глядзіце ў самым нізе! – падказалі яму з камісіі.

Выбаршчык зірнуў зноў у бюлетэнь, прабегся вачыма зверху ўніз і нарэшце радасна выгукнуў

- А, во, знайшоў! – вярнуўся ў кабіну.

Я пацікавіўся, чаму гэта трэба было шукаць згаданую графу. А яна, высвятляецца, ішла не адразу за прозвішчамі кандыдатаў, а ў вялікім адрыве ад іх, у самым нізе аркуша, дзе звычайна ставяць выходныя звесткі друкарні і набрана такім дробным шрыфтам, які далёка не кожны расчытае. Здаецца, драбнічка, але невядома – выпадковая яна ці некім недадуманая, ці занадта ўжо кімсь вельмі абдуманая. Ва ўсякім разе графа "Супраць усіх" у бюлетэні не кожным заўважаецца. Цікава, а ці будзе паведамлена ў канчатковых выніках галасавання лічба, колькі ж на Беларусі грамадзянаў прагаласавала супраць усіх?

З выбарчага ўчастка перад перапынкам на абед я патэлефанаваў на тэлестудыю і пачуў сумную вестку: памёр Valяр'ян Скварцоў – старшыня тэлерадыёкампаніі.

Трыццаць першага жніўня ён хацеў напаткацца са мною, параіцца, прапанаваць мне якуюсь новую нішу на тэлевізіі, але так і не сустрэліся, не напаткаліся, не вытрымаў выбарчага псіхозу, выбарчага гнёту. З выбарчага ўчастка я вяртаўся сумны і прыгнечаны. Думалася пра сэнс жыцця, пра нашу мітусню ў ім, пра нашу будучыню... вядома, і пра выбары.

... Абласны роддом на Старабарысаўскім тракце, у якім размясціўся дваццаць чацвёрты выбарчы участак, штогод блаславуляе ў гэты свет каля трох тысяч немаўлят. Як складзецца іхні лёс, хто будзе іх гладзіць галоўкі – на гэты адкажуць чарговыя прэзідэнцкія выбары. На 24 участку іх вызначала пераважна моладзь, матулі – парадзіхі ды медыкі. Хай будзе так, як яны галасавалі! Што ж да маіх меркаванняў – выбары моцна расцягнулі. Навошта? Каб мець час на махлярства?! На датэрміновае галасаванне хапіла б і аднаго-двух дзён.

Наша грамадства ведала розныя выбары. Мая матуля памятае першыя, калі людзі ад галасавання хаваліся ў лясах. А тыя, хто застаўся ў вёсцы, паўзлі на выбарчы ўчастак на коленцах, бо той выбарчы ўчастак абсталявалі ў царкве – у бажніцы, і людзям здавалася , што яны свой аддаюць голас, а сваю душу нячысціку. А каму ж мы аддавалі свае галасы? Няўжо нам давядзецца і яшчэ пяць гадоў жыць падзеленымі на "чэсных" і "нячэсных", у аўры хлусні, псіхозу, крывадушша, ідыятызму, падмены паняццяў: хто шануе ўсё сваё спрадвечнае – гэта вораг, хто ганіць беларушчыну, палівае яе брудам – гэта патрыёт. Размаўляеш на роднай мове – нацыяналіст. Хочаш вучыць сваіх дзяцей на роднай мове – шукай сабе школу, калі знойдзеш.

Ці прыйдзе ўсё-такі на Беларусь божае прасвятленне?!

P.S. Дзевятага верасня ў асноўны дзень галасавання на выбарчы ўчастак № 24 прыходзілі пераважна людзі сталыя, сямейныя. Сярод іх нямала было і тых, хто не сёння, дык заўтра народзіць сваіх крывінак. Паміж іншым, за пяць дзён датэрміновага галасавання з чацвёртага па восьмага верасня ў абласным раддоме нарадзілася адзінаццаць немаўлят.

У асноўны дзень галасавання, дзевятага верасня, нарадзілася яшчэ чацвёра грамадзянаў Беларусі. Хай жа іхні лёс будзе больш шчасны, чым наш, каб яны не шукалі ў беларускай сталіцы беларускай школы, беларускага садка, каб для іх усё і ўсюды было на Беларусі на кожным кроку беларускае – натуральнае, як наша роднае паветра.

За колькі хвілінаў да завяршэння галасавання на выбарчы ўчастак зноў пайшла моладзь, але ўжо не валам, як у папярэднія дні, а па адным, па два. Шмат ужо хто з іх на выбарчы ўчастак не заходзіў, а задыхана ўлятаў, нібыта аднекуль сарваўся.

Пасля падліку галасоў з алоўкам і сціркаю, афармлення пратакола на парозе выбарчага ўчастка з'явіўся нечакана міліцыянт з аўтаматам у руках. Зрабілася з гэтага не па сабе, але згадалася, што міліцыянт з аўтаматам у заразшняй Беларусі не такая ўжо рэдкая з'ява. Урэзалася ў памяць і настойлівая фраза старшыні выбарчай камісіі падчас афармлення заключнага пратакола: "Пишите карандашом, а потом ручкой обведём".

Паміж іншым, на дваццаць чацвёртым выбарчым участку выбарчая ўчастковая камісія складалася з кіраўніка ўстановы і яе падначаленых. Ці ж можна пры такім фармаванні камісіі забяспечыць незалежнасць камісіянтаў?!

На дваццаць чацвёртым выбарчым участку за Аляксандра Лукашэнку прагаласавала 340 выбаршчыкаў, супраць 296 – гэта значыць, усяго толькі пяцьдзесят тры адсоткі, а не семдзясят пяць, як нам падаюць. За Уладзіміра Ганчарыка 163 выбаршчыкі. Гэта, мабыць, галасы той моладзі, якую паганялі на датэрміновае галасаванне.

***Уладзімір Содаль,***
***назіральнік з выбарчага ўчастка № 24***
***у Абласным раддоме.***

10-12 верасня 2001 г.





Алесь Петрашкевіч

# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ ПА-БЕЛАРУСКУ

(Сатырычная камедыя)

*(Праця́г. Пачатак у папярэднім нумары)*

**ІВАН.** Ты, Янкель, не забывай о пятой графе и не задавай лишних вопросов, когда говорят от имени великого народа. А ты, Ахмет Ажгирей Бут-Гусаим Хусейн Кончак Александрович-оглы, не отмалчивайся, если хочешь, чтобы ваше татаро-мангольское племя когда-нибудь реабилитировали.

**АХМЕТ** *(разгублена)*. Калі ўносіць нешта старое і рускае, то лато! *(Трасе торбачкай)*. Ёкъ ол, сені сасыкъ шейтан алсын!

**ІВАН.** Лато – не то, "спадар" фундаменталист. И прошу по-татарски не матюкаться.

**ЮЗАФ** *(вымае з кішэні карты)*. Карты!.. У рускага падкіднога. І весела і інтэлектуальна. Тут не тое што Карчной ці Фішар, сам Эништэйн не ўстаіць!

**ТАРАС.** Змоўкні, іюдзейска-мусульманьскае падпявала. А то я табе такую Катынь устрою, што і касцей не збярэш.

**ЮЗАФ.** Новы кат Катыні, курва пшэклента!

**ЯНКЕЛЬ.** Вот вам і яшчэ пажаласта!

**АХМЕТ.** Не капайце палячку на балячку.

**ТАРАС.** Ізьвіні, Юзаф Тадэвуш, пажартаваў я. У вас Катынь, у нас – Хатынь да Курапаты?!

**ІВАН.** При чём тут Курапаты?!

*Янка-нямко разумее, пра што спрэчка,ківае галавою, мыкае.*

**ТАРАС.** Маладец, тутэйшы... *(Дае Янку цыгарэту)*.

**ІВАН.** Не понимаю, почему московские дерьмократы не принимают их в нашу российскую зону...

**ТАРАС.** А ім, недавяркам, всё адно, якая зона: руская, польская ці нямецкая...

**ЮЗАФ.** Пане коханы, была ў іх ешчэ і партызанская зона... І ты, калабарант яцьвяжскі, про то не забывай...

**ІВАН.** Не будем намекать относительно колаборантов... Он что, один колаборанствует?! Возражений против домино нет?. Принимаем консенсусом и переходим к разному. *(Да Янкі)*. Займись, немко, делом. *(Паказвае на дзверы сваёй кватэры.)* Там всё в баре и холодильнике. *(Б'е касцяшкай па стале)*. Один – один!

*Нямко ўсё разумее і знікае за дзвярыма кватэры Івана Іванавіча.*

**АХМЕТ.** Бір-алты! *(Б'е касцяшкай)*.

**ІВАН.** Скажу честно, товарищи, если бы не домино, наши дружеские стычки и обсуждения разного, которое лучшим образом подсвечивает положение в обществе...

**ТАРАС.** Шэсць-чатыры!

**ІВАН.** ...то даже я. как депутат, сидел бы на тех сессиях такой же чушкой, как и все остальные народные избранники.

**АХМЕТ.** Крыўдзіш, начальнік. Бу пек яман. Нядобра гэта.

**ЮЗАФ.** Чтэры-пуста.

**ІВАН.** Не понял я...

**АХМЕТ.** Мы ж вас русацяпамі не называем, а вы пры мусульманіне – чушка! Яраббім! Сен мені багышла. Ды даруе мне Валлаг!

**ЯНКЕЛЬ.** У беднага габрэя нават пуста-пуста няма.

**ІВАН.** А вот вам и пуста-пуста. *(Б'е касцяшкай)*. Ты, Ахмет, не обижайся. В чушке нет национального вопроса. Я имел в виду...

**ТАРАС.** Пуста-два!

**ІВАН.** Я имел в виду чушку не в смысле свиньи, которую вы, как и иудеи, нутром не переносите, а в смысле чугунной неотесонной заготовки, а точнее крысы. Что иной депутат, что крыса – без разницы, хотел я сказать. Понял?

**АХМЕТ.** Якши! Мен білем! Экі-беш! *(Б'е касцяшкай)*.

*Паўза ў гульні.*

**ІВАН.** Не спи, католицко-римский экспансионист. Твой ход!

**ЮЗАФ.** Хвілечкэ... Едын-чтэры.

**ІВАН.** Или, может, уже в униаты перекрестился?

**ТАРАС.** Чатыры-чатыры! І нічіво дурнога, между протчым, не бачу ад уніятаў. На Украіне імі хоць грэблю масці. І ў нас на Палессі будуць... Вам, маскалям, на зло.

**ЯНКЕЛЬ.** Чатыры-тры. Толькі для вас, Тарас Тарасавіч.

**ТАРАС.** І калі ты, Іван Іванавіч, сваімі выпадамі міня дапячэш да краснага, то зарубі сібе на носі, што я некалі выйду з тваєй недалугай парціі і падамся да ўніятаў. Мне, яцьвягу-патрыёту, ціраць нечава.

**ІВАН.** Извини, дорогой. И не спи в шапку. Три-два.

**ТАРАС.** Бо з такой парціяй, як твая, дапрэш калі не да цюрмы, то да сумы.

**АХМЕТ.** Учъ-учъ, тры-тры, дост Тарас! *(Б'е касцяшкай)*.

*Янка – нямко вывозіць рэстаранны столік на колах. На ім дзве бутэлькі гарэлкі, чаркі, каўбаса, агуркі і іншая закусь. Усе присутныя, акрамя Юзафа, ажыўлена ўспрымаюць гэта відовішча. Тарас Тарасавіч з задавальненнем пацірае рукі. Гульня ў даміно прыпыняецца. Янка-нямко выходзіць.*

**ІВАН.** Аля фуршэт, господа, паны, спадары и товарищи! *(Разлівае гарэлку па чарках)*.

**АХМЕТ.** Дзіўны вы чалавек, Іван Іванавіч. Самі дырэктар спіртзавода, а гарэлку ў маім камку купляеце. І не дзеля сябе асабіста, а дзеля нас грэшных. Гэта цяпер так рэдка бывае, каб хто каго пачаставаў за так. Людзі халкълар кійік азвярэлі, а свет дунъя делірді...

**ТАРАС.** Так вы ж яво радныя выбаршчыкі, а он сацыялісціческага не крадзёць. *(Рагоча)*. І яшчо он как слуга пана Юзэфа Тадэвуша, не может яво бачыць не апахмэленага. Такая ўжэ чулая парційна-намэнклатурная душа ў нашава дарагова суседа. *(Бярэ чарку)*. Што б яго доля яго не цуралася! Падняли і здрыгануліся!

**ЯНКЕЛЬ.** Няможна нам габрэям. Пост у нас.

**АХМЕТ.** А нам, татарам, бай іш – арам ве ясакъ – наогул не можна.

*Янка-нямко нясе ў сваю кватэру яшчэ адзін ліст фанеры.*

**ІВАН.** Для нас, православных, религиозные и национальные чувства младших братьев превыше всего. Рвани, пан Юзаф за троих! Выручи малые народы!.. Пока Польска не згинела...

**ЮЗАФ** *(як закляцце)*. Я, патомны, гербавы шляхціц Юзаф Тадэвуш Пшэляхавіцкі, проша пана, завязаў з раніцы і на вечны чпсы. І як раз дзеля таго, каб Польска не згінэла, калі ўжо Беларусі кранты.

*Усе рагочуць. Чуваць, як Янка-нямко нешта пілуе нажоўкай.*

**ЯНКЕЛЬ** *(вельмі сур'ёзна і сардэчна)*. Ой вэй! Якая радасць! Ляхаім і яшчэ два разы ляхаім, пан Юзаф Тадэвуш, што па-вашаму азначае будзь здароў! І няхай будуць ляхаім усе тваі сваякі. Можа цяпер і пані Лёдзя, і дзеткі вернуцца, калі ўжо ты завязаў на вечны часы.

**ІВАН.** Интересно, что он будет делать "вечны часы", если пить перестанет?

**ЮЗАФ.** У рэкіціры падамся. Рабаўнікоў, пся крэў, і жываглотаў, проша пана, рабаваць буду. Почонткові капітал вэдлуг Маркса-Энгельса збераць бэндэ.

*Усе зноў рагочуць. З кватэры Янкі-нямко даляталоць даволі гучныя стукі малатком.*

**ЯНКЕЛЬ.** А я яго, кажучы па руску, очань дажа панімаю. Паўжыцця пражыў чалавек у гэтай дурной дзяржаве, якая і сама не гам і другому кукіш з маслам і нават без масла. Толькі што скажа пані Лёдзя, каб яна была здарова і каб да яе не прыходзілі госці кожны дзень.

**ЮЗАФ** *(цытуе)*.

Бойся Бога, скажа Лёдзя, -
Не крадзі, бо быць бядзе.
Я скажу, што я не злодзей –
Тых трасу, хто сам крадзе.

**ТАРАС.** Юмарыст! Проста Тарапунька са Штэпсалем. Але сядзець давядзецца табе, а не Штэпсалю. І тут мы з ласкі вярцікальнага правіцельства парупімся, что бы цібе ўкаталі на поўную катушку.

**ЮЗАФ.** Маючы пінёнзы, я куплю цябе, маёр, першага, потым куплю суддзяў і пана пракурора, потым стану карумпірам, дэпутатам, міністрам і можа нават самім панам прэзідэнтам, калі ён не акажацца большым злодзеем за мяне. *(Бярэ гармонік, грае і спявае, кіруючы ў сваю кватэру)*.

Павітаўся са мной Клінтан,
Я рукі не мыў сём дзён.
Толькі нюхаў – пахла рынкам,
Сніўся доляраў мільён.

*(Зачыняючы за сабою дзверы)*. Господа, купите себе немного Олби! Первый ваучерный всегда первый. Инкомбанк... Империал... МММ!.. БББ... *(Знікае за дзвярыма)*.

*Вельмі гучна стукае Янка-нямко.*

**ТАРАС.** Такі гэкнуўся пан Юзаф! Што ён там стукае? Што ён там шморгае? *(Ідзе ў кватэру Янкі-нямко і вяртаецца з ім)*.

**ІВАН.** Юзафа будем лечить. Дело не новое. А пока выпьем за его здоровье.

**ЯНКЕЛЬ.** Сахарам на душу...

*Чокаюцца. Янка цягнецца да закускі.*

**ІВАН.** Не торопись, Янка. Выпей еще за пана Юзафа. *(падае яму чарку, той выпівае)*. Молодец! А теперь за господина Ахмета. *(Падае чарку, той выпівае)*. И вот эту за спадара Янкеля. *(Падае чарку, той выпівае)*.

**ЯНКЕЛЬ.** Які жа я спадар? Знайшлі спадара! Можна падумаць, што ў гэтай стране нехта, акрамя акупанта, можа стаць спадаром...

**ІВАН.** Вот народец! Вот крутожопая нация! Сколько мы ее не били, а она опять же и за тем!

**ЯНКЕЛЬ.** Вот вам зноў пажаласта! А кажуць, што ў гэтай стране няма антысемістаў.. *(Падае Янку-нямко закусь)*.

**ТАРАС.** Памалчы, Янкель! Не пра тваю паршывую нацыю рагавор. Он про этого Пілсудчыка, няма на яго Будзённага. А вас другія білі.

**АХМЕТ.** Можна падумаць, што нас, татар, не білі... Бізім халкъны дага насыл ура эділер – ды яшчэ як білі...

**ТАРАС.** Тутэйшых абарыгенаў шчэ не так білі, а ане скромно маўчаць, бо талерантны, а не такія, як вы, нахалюгі... *(Падае Янку-нямко закусь)*.

**ІВАН.** А били потому, что не было интернационалу и исторического материализму с диолектикой. *(Падае Янку-нямко чарку)*.

**ТАРАС.** І еслі мы будзем вспомінаць, хто каго калі і как біл, то інтэрнацыонал нашага пад'езду распадзецца і не будзет з кем ні чарку выпіць, ні казла забіць.

**АХМЕТ.** Я згодзен з вамі – мен разым.

**ІВАН.** Кстати о козле! Хватит абъедаться, Немко! Бери костяшки – за пана Юзафа будешь. Один-два!

*Янка-нямко садзіцца за стол, але Юзафаў услончык перакульваецца. Усе рагочуць, а Янка-нямко атрымлівае падзатыльніка ад Тараса. Ён і смяецца, і скуголіць, але бярэ касцяшкі.*

**АХМЕТ.** Учъ-беш, або тры-пяць!

**ЯНКЕЛЬ.** Пяць-шэсць!

*Янка радасна б'е сваёй касцяшкай аб стол.*

**АХМЕТ.** Алты-алты ў няшчаснага...

*Паўза зацягваецца.*

**ІВАН.** Чей ход?!

**ЯНКЕЛЬ.** Усё, Іван Іванавіч...

**ІВАН ІВАНАВІЧ.** Что значит "усё"?!

**АХМЕТ.** Проша пана, як той Юзаф кажа, але ж вы сен-эчкісінъ, казёл! Натуральны казёл!

**ЯНКЕЛЬ.** Пад стол, Іван Іванавіч, пад стол...

**ТАРАС.** Іван Іванавіч не можэт быць "казлом"! І пад стол слуга народу не палезет, бо это знэважыло б не толькі вялікую нацыю, але і сувэрэнну, незалежну і нейтральну беларуську дзяржаву.

**АХМЕТ.** Тады алчакъгонъюльлімІз сам лезь!

**ТАРАС.** У міня таксама за спіной десяць мільёнаў ісціна-рускіх патрыётов і процівавоздушный шчыт ад Рыгі да Адзесы!

**ЯНКЕЛЬ.** От як мы з вялікім рускім народам паддержым Садата-Арафата, от тагда вам і будуць правы чалавека!..

*Янка-нямко разумее сэнс сутычкі "інтэрнацыяналістаў" і дабраахвотна лезе пад стол.*

**ІВАН.** Поистине Немко – единственный из СНГ, кто цеметирует наш интернационал. *(Падае Янку-нямко ашчэ адну чарку)*.

**ТАРАС.** Усёраўно яво гарэлка не бяроць. *(Стае з крэсла)*. Садзісь, Нямко, я цібя покручу, што б ты хоць раз захмялеў ды закайфаваў па-настаяшчаму.

*Іван Іванавіч штурхае Янку ў крэсла, Тарас раскручвае яго. А калі спыняе, той устае і, трымаючыся за сцяну, брыдзе ў сваю кватэру. Яго ванітуе.*

**ІВАН.** Как мало надо человеку для полного счастья?!

**ЯНКЕЛЬ.** Во ўжо сапраўды, каму смех, а каму гелэхтэр...

**ІВАН.** Один знаменитый философ сказал: хочешь быть счастливым – будь им! Белорусы умеют быть счастливыми...

*(Працяг у наступным нумары)*

Сымон БАРЫС

# Чорныя дні і страты Беларусі

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**22.03.1943 г.** – карны фашысцкі батальён спаліў вёску Хатынь (у Лагойскім раёне) разам з яе жыхарамі (149 чалавек, сярод іх 75 дзяцей). За гады вайны ў Беларусі спалена разам з жыхарамі 628 вёсак, 186 з іх так і не адноўлены пасля вайны.

**21-23.10.1943 г.** – фашысты знішчылі мінскае гета і вялікую колькасць яўрэяў у Трасцянецкім лагеры смерці. Усяго загінула амаль 100 тысяч яўрэяў. На Беларусі было створана 70 гета.

**30.06.1944 г.** – ноччу акупанты расстралялі вязняў і ўзарвалі памяшканні Калдычаўскага лагера смерці (1942-1944 гг.), што быў каля вёскі Калдычава Гарадзішчанскага раёна (каля Баранавічаў). Тут загінула больш за 22 тысячы чалавек.

За гады вайны (ліпень 1941 – ліпень 1944 гг.) у Масюкоўшчынскім лагеры смерці было загублена больш за 80 тысяч савецкіх і замежных грамадзян, у Трасцянецкім (1941-1944 гг.) – 206,5 тысяч чалавек. У Азарыцкім лагеры смерці для ваеннапалонных (1944 г.) загінула з голаду, холаду і хвароб каля 15 тысяч вязняў. Усяго ў Беларусі было 260 лагераў смерці.

**20.09.1944 г.** – І. Сталін перадаў Польскай Рэспубліцы 17 раёнаў Беластоцкай вобласці і 3 раёны Берасцейскай вобласці. Гэта перадача была юрыдычна замацавана дамовай паміж Польшчай і СССР ад 16.08.1945 г. Тэрыторыя БССР у 1945 г. зменшылася да 207,6 тыс.кв.км, а колькасць насельніцтва – да 6 540 тыс. чалавек. У выніку ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1939 г. яе тэрыторыя склала 233,7 тыс. кв. км, а насельніцтва павялічылася да 11 млн. чалавек.

**1945 г.** – прымусовы вываз беларускай моладзі ў Расію, у школы фабрычна-завадскога навучання ("ФЗО").

**08.02.1947 г.** – бальшавіцкія карныя органы разграмілі "Саюз беларускіх патрыётаў". У выніку двух судовых працэсаў (20 чэрвеня ў Менску і 11-12 лістапада 1947 г. у Полацку) было асуджана 44 чалавекі тэрмінам ад 3 да 25 гадоў.

**04.06.1947 г.** – усталяванне крымінальнай адказнасці за ўсялякае "посягательство" на дзяржаўную або калгасную ўласнасць: ад 5 да 25 гадоў лагераў. Гэта было паслабленнем суровых пакаранняў "закона аб пяці каласках" 1932 г.

**02.06.1948 г.** – прыняты Указ Прэзідыўму Вярхоўнага Савета СССР аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці асоб, якія злосна ўхіляюцца ад грамадскакарыснай працы ў калгасе, і высяленні іх у аддаленыя раёны СССР. Высялялі і тых, хто не змог вырабіць неабходны мінімум 250 працадзён у год.

**1946-1948 гг.** – чыстка КПБ і замена большасці вядучых камуністаў у Беларусі рускімі.

**1949 г.** – паводле спецыяльнай урадавай пастановы СССР былыя палітзняволеныя высяляліся з Беларусі на вольнае пасяленне ў аддаленыя раёны СССР.

**У 1949-1955 гг.** праводзіліся вярбоўкі на выезд на лесарасрацоўкі ў Карэла-Фінскую ССР і Комі АССР. З заходніх абласцей Беларусі за некалькі пасляваенных гадоў было выслана каля 34 тысяч чалавек, з іх многія на спецпасяленне ў спецпасёлкі, навечна, без права вярнуцца.

**Верасень 1951 г.** – Савет Міністраў СССР прыняў пастанову "Аб высяленні кулакоў з Беларускай ССР", на аснове якой з Беларусі ў 1952 г. было вывезена ў Сібір, Казахстан і Якуцію амаль 30 тысяч чалавек.

**07.04.1952 г.** – прынята пастанова Савета Міністраў БССР № 436 "Аб разглядзе спіскаў кулацкіх гаспадарак, прадстаўленых выканкамамі Полацкага, Пінскага, Маладзечанскага, Гарадзенскага, Баранавіцкага, Берасцейскага абласных Саветаў дэпутатаў працоўных".

**02.10.1965 г.** – прыняты Указ Прэзідыўму Вярхоўнага Савета СССР аб ліквідацыі Саветаў народнай гаспадаркі. У выніку скасавання Саўнаргаса БССР буйныя прамысловыя прадпрыемствы Беларусі пачалі падпарадкоўвацца непасрэдна саюзным міністэрствам у Маскве. Урад БССР страціў магчымасць кіраваць і кантраляваць буйныя прамысловыя прадпрыемствы на сваёй тэрыторыі, што пазбавіла БССР эканамічнага суверэнітэту над буйнымі заводамі.

**10.03.1972 г.** – адбыўся выбух на менскай фабрыцы футляраў Менскага вытворчага аб'яднання "Гарызонт". Загінула больш за 100 чалавек і была разбурана фабрыка. Следчая камісія прызнала вінаватымі праекціроўшчыкаў Ленінградскага праектнага інстытута.

**26.04.1986 г.** – адбылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС. Каля 2,1 мільёна жыхароў Беларусі аказалася на забруджанай тэрыторыі. Краіна страціла 485 вёсак і пасёлкаў. Каля 150 тыс. чалавек былі адселены. У выніку высокай смяротнасці і эміграцыі насельніцтва Беларусі рэзка скарачаецца – у канцы 2000 г. яно зменшылася да 9 995 тыс. чалавек.

**30.10.1988 г.** – унутраныя войскі і міліцыя жорстка разагналі ў Менску масавую дэманстрацыю памяці ахвяраў сталінізму ў дзень, калі адзначаліся "Дзяды".

**20.07.1992 г.** – прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч і прэм'ер-міністр Расіі Ягор Гайдар падпісалі шэраг вайсковых дамоў, якія вярталі мілітарную сувязь абедзвюх дзяржаў.

**22-24.12.1994 г.** – цэнтральныя газеты Беларусі "Советская Белоруссия", "Рэспубліка", "Звязда" выйшлі з белымі плямамі. Газеты "Свабода", "Народная газета" не выйшлі зусім. Асноўнай прычынай была забарона друкаваць даклад народнага дэпутата С. Антончыка аб карупцыі, які і быў зняты з газетных палос.

**11.04.1995 г.** – аддзел спецназу гвалтоўна выдаліў з будынка беларускага парламента 19 народных дэпутатаў апазіцыі ў Вярхоўным Савеце, якія аб'явілі галадоўку, пратэстуючы супраць "антыканстытуцыйных прапаноў прэзідэнта ў справе правядзенн рэферэндуму".

**14.05.1995 г.** – пасля рэферэндуму аб наданні рускай мове роўных правоў, беларуская мова фактычна перастала быць дзяржаўнай і пачала выцясняцца з дзяржаўных устаноў, а нацыянальныя школы пачалі праводзіць навучанне па-руску. Беларуская нацыянальная сімволіка перастала быць дзяржаўнай.

**24.11.1996 г.** – дзень дзяржаўнага перавароту, усталяванне аўтарытарнага рэжыму.

**02.04.1997 г.** – у Маскве падпісана дамова пра саюз Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі. Масавыя пратэсты ў Менску і іх жорсткі разгон.

**20-24.03.1999 г.** – разводдзе на Палессі. Выйшлі з берагоў рэкі Гарынь і Прыпяць. Пацярпелі 204 населеныя пункты. Адселена 2137 чалавек.

**06.04.1999 г.** – памёр Генадзь Дзмітрыевіч Карпенка, намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**07.05.1999 г.** – знік Юры Захаранка, вядомы палітычны дзеяч, былы міністр унутраных спраў. Пасля гэтага пачалося знікненне апазіцыйных палітычных дзеячаў, напрыклад: 16.09.1999 г. – Віктар Ганчар, першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, і Анатоль Красоўскі, прадпрымальнік.

**30.05.1999 г.** – здарылася трагедыя пры ўваходзе на станцыю менскага метро "Няміга". Загінула 53 чалавекі.

**17.10.1999 г.** – Марш Свабоды ў Менску завяршыўся на вуліцы Першамайскай жорсткімі сутыкненнямі з міліцыяй і АМАПам.

**08.12.1999 г.** – падпісанне ў Маскве Дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі і Праграмы дзеяння па яго ажыццяўленні. Дамову падпісалі прэзідэнты дзяржаў: ад Беларусі – А.Р. Лукашэнка, ад Расіі – Б.М. Ельцын. Гэта стала пачаткам скасавання дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, тым больш што 24.12.1999 г. Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь ратыфікаваў гэтую дамову.

**25.03.2000 г.** – у Менску, на плошчы імя Якуба Коласа, супраць дэманстрантаў з нагоды 82-й гадавіны абвяшчэння БНР былі накіраваны АМАП і ўнутраныя войскі з тэхнікай.

**07.07.2000 г.** – у Нацыянальным аэрапорце №2 "Менск" знік вядомы тэлежурналіст менчанін Дзмітры Завадскі, аператар беларускага бюро маскоўскага тэлеканала "ГРТ".

**09.09.2001 г.** Дэмакратычныя сілы Беларусі на прэзідэнцкіх выбарах не здолелі супрацьстаяць рэжыму. Улада ў Беларусі не змянілася.

# "Стукайце і вам адчыняць". Калі захочуць...

Мяне докшыцкія раённыя ўлады абвінавацілі ў тым, што я ўмешваюся ва ўнутраныя справы незалежнай суверэннай дзяржавы.

Але справа ў іншым. Я на імя старшыні докшыцкага райвыканкаму сп. Палідавец звярнуўся з просьбай аб тым, каб яны дапамаглі ў справе адраджэння беларушчыны ў Докшыцкім р-не, спасылаючыся на тое, як літоўскія ўлады гэта робяць у Беларусі, менавіта ў Рымдзюнах, аб чым і расказвала газета "Голас Радзімы" (я гэтую выразку з газэты і даслаў сп. Палідавец).

Скажу адразу, што адказ я атрымаў ад докшыцкіх уладаў, хаця толькі яны не на ўсе пытанні адказалі. На адварюсе гэтага ліста я высылаю адказ намесніка старшыні Докшыцкага райвыканкама У. У. Камінскага, які не толькі не адказаў на ўсе пытанні, але і, мякка кажучы, не зусім дакладны.

*Г. Вільнюс, вул. Архітэктурнэ, 23-69,*
*Гіль Ю. П.*

*Шаноўны спадар Юры Пятровіч!*

*Докшыцкі райвыканкам уважліва разгледзеў Вашу прапанову наконт адкрыцця ў вёсцы Вашунова бібліятэкі ў будынку былой "Пчалярні". Мы не бачым сэнсу ў гэтым. У Вашунове жыве 3 чалавекі. Адлегласць вёскі Свіркі ад Вашунова 3 км, ад вёскі Свіркі да Параф'янава 2 км. Хто ж з вёскі Свіркі будзе наведваць тую бібліятэку (дарэчы ў Свірках жыве толькі 80 жыхароў).*

*Тым больш, што былая "Пчалярня" – гэта буданак вельмі стары, гнілы і бібліятэку ў ім адкрываць можна толькі пасля вялікага рамонту, а ўлічваючы вышэй сказанае, згадзіцеся, не мае сэнсу. Калі Вы, паважаны спадар Юры Пятровіч, так імкнецеся дапамагаць сваім землякам у справе развіцця беларускай мовы і нацыянальнай культуры, то мы з удзячнасцю прымем вашу літаратуру (калі яна мае літаратурную і гістарычную каштоўнасць) у Параф'янаўскую бібліятэку, якая абслугоўвае не толькі 80 жыхароў вёскі Свіркі, а і 1139 жыхароў станцыі Параф'янава і з другіх вёсак сельсавета.*

*Гэта па-першае.*

*Па-другое. Чаму з пытаннем аб адкрыцці бібліятэкі ў вёсцы Вашунова звяртаюцца да Вас, грамадзяніна другой дзяржавы? Ці не бліжэй было б жыхарам навакольных вёсак звярнуцца да мясцовай улады?*

*На самой справе ніхто да Вас не звяртаўся. Мы разумеем Вашу мэту, але шлях яе дасягнення Вы выбралі не зусім правільны. Вашы дзеянні ёсць нішто другое, як умяшанне ва ўнутраныя справы незалежнай суверэннай дзяржавы.*

*Дазвольце шаноўны спадар Юры Пятровіч, нам у сваёй дзяржаве самім вырашаць, дзе адкрыць бібліятэку, а дзе пабудаваць капліцу (калі на гэта будзе патрэба ў жыхароў раёна).*

*З павагай.*
*Намеснік старшыні*
*Докшыцкага райвыканкама І. І. Камінскі.*

Шаноўны рэдактар! Дазвольце праз Вашу газету сказаць мне наступнае:

1) Я ні ў якім разе не ўмешваюся ва ўнутраныя справы "Незалежнай суверэннай дзяржавы", бо я толькі прапаную і прашу. А хто просіць і стукае, таму павінны адчыняць і ..., але гэтага няма. Усё робіцца па бальшавіцку.

2) Спадар Камінскі І. І. гаворыць не дакладна, што "былая "Пчалярня" – гэта буданак вельмі стары, гнілы і бібліятэку ў ім адкрываць можна толькі пасля вялікага рамонту...".

Гэта не так. Я там часта бываю і адказна скажу: "Там усё ў парадку. Нават на вокнах пастаўлены краты...".

Аб гэтым пацвердзяць і чыноўнікі з Докшыц, якія туды прыязджаюць каб пап'янстваваць за калгасны кошт. Магчыма толькі там адзін Камінскі І. І. не быў, альбо робіць выгляд на гэта і сцвярджае так.

А калі і так, што гэты будынак стары, то ён усяроўна падыдзе нам, каб стварыць бібліятэку ці капліцу.

Туды людзі ішлі, ідуць і пойдуць. Аб гэтым сведчыць гістарычна-этнаграфічны музей "Засцянковая хатка", які знаходзіцца там, у Вашунове.

Сп. Камінскі пытае, чаму дзеля адкрыцця бібліятэкі ў в. Вашунове звяртаюцца да грамадзяніна другой дзяржавы? Адказваю.

Па-першае, мне давяраюць людзі, што я тут вырас, я для іх працую на ніве беларушчыны.

А мясцовыя ўлады нічога не робяць у гэтым кірунку і імкнуцца знішчаць нашае беларускае.

Я толькі дзякую сп. І. І. Камінскаму, што ён даў адказ на беларускай мове, тут ён не парушыў Закон, бо і павінен гэта зрабіць, бо я пісаў на роднай мове.

Па другое, што тычыцца кніжак на беларускай мове для Параф'янаўскай бібліятэкі, то мы дапаможам, але вы дайце нам транспарт і ўсё будзе арганізавана. Толькі хачу дадаць, што гэта наўрад ці атрымаецца па наступных прычынах:

1) Мясцовыя ўлады ў гэтым не зацікаўлены, бо я прапаноўваў ім для насельніцтва дабрачынную дапамогу, але Докшыцкія ўлады адмовілі, спасылаючыся, што гэта робіць раённы Чырвоны крыж, хаця іншых, з якімі я размаўляў і якія ў гэтым маюць патрэбу, нічога ад докшыцкіх уладаў не атрымалі.

2) Кніжкі ў вас кваліфікуюцца па ідэалагічнаму прызнаку, і мы не ўпэўнены, што нашыя кніжкі вашыя цэнзары прызнаюць лаяльнымі.

**З павагай Юры Гіль.**

8.08.2001 г.

НАША СЛОВА № 38 (526) 26 ВЕРАСНЯ 2001 г.





Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**Забавы** – так называліся ў Сейлавічах танцы пад музыку – ладзілі асобна шляхта, асобна сяляне. Хлопцы на забаву скідваліся грашыма. Дзяўчаты прыходзілі бясплатна. Чужых не пускалі, але ... Шляхочыя хлопцы пускалі на свае забавы **праваслаўных хлопцаў**, ды толькі **прыгожых і багатых.** Што ж і шляхцянкі ўсялякія бывалі, і не надта прывабныя і перастаркі, а замуж аддаваць трэба. Ну дык не беднату ж множыць. А калі ўжо прымака праваслаўнага брацЬ на багатую шляхочую гаспадарку да няўдалай дачкі, то хоць каб відны быў ды здаровы, каб рабіць мог, і дзеці прыгожыя былі. Вось такі "натуральны адбор". Безумоўна, што ў гэтым выпадку сям'я станавілася каталіцкай.

Што дзеецца на савецкім баку, ведалі добра. Калі там пачаліся калгасы, і наступіў голад, мая бабця хадзіла на мяжу пад Масявічы і перадавала хлеб праз калючы дрот сястры, якая аказалася на савецкім баку. **Насуперак прынятых** за аксіёму сцвярджанняў пра жорсткі памежны рэжым магу сказаць, што гэта было некалькі не так. Недзе блізка каля 1930 года ў Хвіцькаў пакралі коней. Кастусь Хвіцька пайшоў па слядах, дайшоў да мяжы, распавёў, што здарылася. Яго прапусцілі польскія памежнікі. Потым тое самае распавёў савецкім. Прапусцілі і тыя. Знайшоў сваіх коней у нейкім хляве ў Ржаўцы Капыльскага раёна і прывёў дадому. І савецкія і польскія памежнікі прапусцілі і з коньмі.

Акрамя сейлавіцкай сямігодкі на канец 30-х гадоў была яшчэ польская пачатковая школа ў Андрушах.

На стыку сейлаўскіх і андрушоўскіх земель стаяў яшчэ адзін вятрак (чацвёрты), які адносяць то да Сейлавіч, то да Андрушоў.

У Сейлавічах былі дзве прыватныя крамы. Абедзве належалі яўрэям (Вэльвалю і Валахвянскаму).

З медычнага персаналу у Сейлавічах была адна акушэрка.

Медычныя паслугі каштавалі вельмі дорага. За прыём у бальніцы трэба было плаціць 5 злотых (2 пуды жыта), за рэнтген -- 15 злотых, кожны дзень стацыянарнага лячэння каштаваў 2,5 злотыя.

На ўсю вёску было пяць раварoў, два дэтэктарныя радыёпрыёмнікі і адзін лямпавы, у афіцэра памежніка. У вёску ішло некалькі асобнікаў газет.

Вайсковая частка размяшчалася ў сярэдзіне вёскі. Штаб стаяў там, дзе зараз хата Ваціка Судніка, пляц і паласа перашкодаў (баявіска) былі там дзе стаяць хаты Урбана Чэся і Грыгаровічаў (Юльяна Мартынавіча).

Ні аднаго асадніка на сейлавіцкіх землях не было. 16 асаднікаў было паселена на кунаскіх землях уздоўж польска-савецкай мяжы. Асаднікі займалі 500 гектараў зямлі ў той час, як на 70 кунаскіх двароў прыпадала 300 гектараў. Але не ўсе асаднікі жылі багата. Некаторыя таксама сядзелі без хлеба.

Асобна трэба спыніцца на сітуацыі з лесам. Увесь лес быў княжацкі. Рэжым у лесе быў накшталт самага строгага запаведніка. На Урале мне давялося служыць каля запаведніка, па перыметру якога стаялі шыльды "Уваход забаронены". Уваход у сейлавіцкі, кунаскі, бузуноўскі лясы не быў забаронены, але ў лесе нельга было ні то што дрэва спілаваць. Нельга было пужаленца выразаць. Нельга было збіраць грыбы і ягады. Нельга было, нават, набраць лісцяў.

Кары за парушэнні былі самыя розныя. Найменшая кара -- гэта калі ляснік адбіраў кашы ці мяхі. А сейлаўцы не маглі абысціся без лесу. І першая патрэба - гэта дубовы ліст, на якім пяклі хлеб. Па ліст у лес звычайна хадзілі дзеці. Мяхоў не бралі, а бралі шнурок і на гэты шнурок нанізвалі ліст за лістом. Атрымоўваліся такія "маністы", як кажуць у Сейлавічах. Калі нарываўся ляснік, то страта шнурка была не істотнай.

Каб назбіраць грыбоў ці ягадаў, трэба было браць білет у лясніцтве. Выйсце знайходзілі ў тым, што бралі адзін білет на некалькі чалавек. Ляснікі часцяком заплюшчвалі вочы на такое парушэнне.

Цукар быў дарагі. Грыбоў марынаваць не ўмелі. Таму на зіму і грыбы, і ягады (чарніцы) сушылі. Дарэчы, у Сейлавічах усе ягады маюць свае назвы: маліны, буіны, брусніцы, жураўліны і г. д. Слова суніцы ўжываецца рэдка, часцей кажуць чырвоныя ягады. А вось на чарніцы кажуць чорныя ягады, а часцей проста ягады. Калі сейлаўцы кажуць: "Паехалі ў ягады", гэта значыць, што паехалі ў чарніцы.

З грыбамі аналагічна. Усе грыбы маюць свае назвы, агульнабеларускія або мясцовыя: лісічка, сыраежка, рыжык, масляк, махавік, мухамор, апенька, бабка (падбярозавік), асавяк (падасінавік) . А на баравік, акрамя слова баравік, якое ўжываецца вельмі часта, кажуць яшчэ добры грыб, або проста добры, або проста грыб.

І яшчэ, такія строгасці ў адносінах да лесу былі ўведзены менавіта пры Польшчы. Пры цары ў той жа княжацкі лес можна было хадзіць вольна.

Пры недаступнасці лесу многія патрэбы ў лясным матэрыяле сейлаўцы задавальнялі за кошт балотаў. Лазнякі раслі практычна на любой сенажаці, таму недахопу ў лазе не было.

На балоце можна было высякчы і бярэзінку, і алешыну.

І вяртаючыся да лазы хачу зазначыць, што сёння даволі цяжка сказаць, з чаго сейлаўцы больш любілі плесці лапці, але аднязначна магу сказаць, што і пры Польшчы лапці шырока выкарыстоўваліся. У прыватнасці, Адам Некраш і ў 30-я гады касіць ішоў толькі ў лапцях, хоць і шляхціц быў.

Уся сейлавіцкая зямля была ў прыватным карыстанні. Але была зямля і грамадскага карыстання. Не магу дакладна сказаць наконт глінішча, а вось пад пескавішча на Буліновічавай гары былі адведзены 2 гектары. Шляхта магла браць тут пясок бясплатна. Дастаткова было толькі паведаміць хаця б суседу, што ўзяў колькі вазоў на такую вось патрэбу. Усе іншыя павінны былі пясок купляць. Каму плацілі грошы і якая была цана, ужо ўсе забыліся.

Да 1939 года, што паспелі палякі, дык гэта рассяліць вёскі на хутары. У Кунасе засталося 10 двароў, астатнія (60) выйшлі на хутары.

У Андрушах засталося 15 двароў, астатнія (больш 80) -- на хутарах.

У Сейлавічах (вёска і засценак разам), аднак, засталося каля 140 двароў. Каля 160 гаспадарак выйшла на хутары.

У Ліпніцкіх - 23 двары.

Падышоўшы да 1939 года мы фактычна завяршылі дасавецкую гісторыю **Сейлавіч**. Зараз можна падвесці нейкія вынікі. У пачатку гэтага раздзелу было сказана, што існаванне Сейлавіч у 2-й палове 16-га стагоддзя не выклікае сумнення. Але тады мне не хапала пісьмовых сведчанняў. Днямі ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя) выйшла кніга "Памяць. Нясвіжскі раён".

У артыкуле пра **Сейлавічы** запісана: "У 1586 г. князь Мікалай Радзівіл надаў Нясвіжскай плябаніі 8 валок зямлі, што знаходзіліся паміж **"валок Сейлаўскіх"**. У 1722 г. --Сейлавічы, засценак Нясвіжскай ардынацыі, які згодна прывілею Ганны Радзівіл аддадзены шляхце на леннае ўладанне. У 1793 г. вёска і засценак Сейлавічы фальварка Ганусаўшчызна ў Слуцкім павеце Расійскай імперыі, уладанне Радзівілаў. Вёска налічвала 53 дымы, 285 жыхароў, карчма. У 1811 г. у вёсцы 62 гаспадаркі, 167 душ мужчынскага полу; у 1845 г. у аднаіменным засценку – 69 двароў, 332 жыхары. У 1852 г. вёска, 51 дым, 287 жыхароў і засценак, 62 дымы, 28 валок зямлі. У 1876 г. у засценку 1110 дзесяцін зямлі, уладанне Радзівілаў..."

*Такім чынам знойдзены ўспамін пра Сейлавічы адносіць іх у тыя ж часы, калі згадваюцца і ўсе навакольныя вёскі. Нажаль, абапіраючыся на кнігу "Памяць" праблематычна назваць першакрыніцу гэтых звестак. Але з часам будзе развязана і гэтая задача.*

Паводле "Геаграфічнага слоўніка..." ў 1889 годзе ў Сейлавічах 119 двароў і царкаўка. (У 1852 -- 113 двароў разам у засценку і вёсцы).

Далей па кнізе "Памяць": " ...У 1897 г. вёска, 89 двароў, 511 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны і засценак, 96 двароў, 513 жыхароў, царква; у Гавязнянскай валасці Слуцкага павету. У 1909 г. у вёсцы – 568 жыхароў, засценку – 635 жыхароў. У 1921 – 39 гг. – у складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павету. У 1921 г. вёска налічвала 109 двароў, 592 жыхары, засценак – 107 двароў, 576 жыхароў..."

Як ужо прыводзілася на карце 1929 года ў засценку -- 121 хата, у вёсцы -- 114, у Ліпніцкіх -- 17 хатаў. І частка вёскі ўжо на хутарах.

І ў 1939 годзе -- у Сейлавічах 300 двароў: 140 у вёсцы і засценку і 160 на хутарах.

**Андрушы**, як ужо адзначалася, куплены Радзівілам і далучаны да Нясвіжскага княства ў 1587-1602 гадах. Далей паводле кнігі "Памяць": "У 1748 г. Андрушы – засценак Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. З 1793 г. – у складзе Расійскай імперыі, у Слуцкім павеце. У 1809 г. – вёска фальварка Кунасы, знаходзілася ў арэндзе ў В. Даманскага. У 1850 г. у вёсцы 230 жыхароў; у 1870 г. вёска ў складзе Гавязнянскай валасці Слуцкага павету, 107 мужчынскіх душ. У 1897 г. – 71 двор, 423 жыхары, знаходзіліся хлебазапасны магазін, ветраны млын, кузня. У 1909 г. – 133 двары, 459 жыхароў. У 1921 – 1939 гг. – у складзе Польшчы, у Гавязнянскай гміне Нясвіжскага павету Навагрудскага ваяводства, 87 двароў, 469 жыхароў (1921 г.). На карце 1929 года ў Андрушах -- 88 двароў. І ў 1939: 15 двароў у вёсцы, 80 на хутарах.

Паводле кнігі "Памяць": "У 1516 г. **Кунаса** – маёнтак у Навагрудскім ваяводстве ВКЛ. Кароль Сігізмунд І падцвердзіў правы на яго М. Пацу. У 1555 г. Кунаса – ўладанне Пацаў, у 1557 г. – у заставе М. Радзівіла. У 1589 г. Ян Д. Пац прадаў маёнтак Радзівілам. У 1617 г. Кунаса – сяло, уладанне Радзівілаў, у 1730 г. – фальварак, Благавешчанская царква, карчма. У 1762 г. у склад фальварка Кунаса ўваходзілі 3 вёскі, карчма каля в. Андрушы, 29 дымоў. З 1793 г. – у Расійскай імперыі, у Слуцкім павеце. У 1809 г. вёска і фальварак Кунаса (у фальварку – в.в. Кунаса, Андрушы і засценак Палосна) адносіліся да Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў і знаходзіліся ў арэндзе В. Даманскага, усяго 137 душ. У 1850-51 г.г. у фальварку – 93 жыхары, у 1858 г. – у фальварку 310 жыхароў, у вёсцы – 102. У 1876 г. Кунаса – маёнтак, 288 дзесяцін зямлі, засценак, 179 дзесяцін зямлі, уладанне Радзівілаў і вёска (48 душ мужчынскага полу ў 1876 г.), у Гавязнянскай валасці. У 1815 г. на грошы Радзівілаў была адрамантавана прыходская Благавешчанская царква. У прыход уваходзілі 13 навакольных вёсак, 2226 прыхаджан. На сродкі сялян працавала царкоўна-прыходская школа. 13.10.1877 г. царква згарэла. У 1887 г. пабудавана новая драўляная царква. У 1885 г. – сяло, 20 двароў, 146 жыхароў. У 1884 г. адчынена рухомая школа пісьменства, у якой у 1890-91 навучальным годзе вучыліся 16 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1897 г. – 39 двароў, 210 жыхароў, царква. Побач знаходзіўся аднаіменны засценак. У 1909 г. вёска. 155 жыхароў і маёнтак, 12 жыхароў. У 1916 г. працавала аднакласная народная навучальня. У 1921-39 г.г. – у складзе Польшчы, у гміне Гавязна Нясвіжскага павету (у 1921 г. у вёсцы 53 двары, 271 жыхар, у фальварку – 12 жыхароў)..." У 1939 годзе ў Кунасе 10 двароў, на хутарах--60.

*(Працяг у наст. нумары.)*



Верхні камень жорнаў аднаго з сейлавіцкіх ветракоў. Здымак 17.06.2001 г.

# НА ШЛЯХУ Ў КРАІНУ ВЕДАЎ

## (Куцеінскаму буквару – 370 гадоў)

Буквар! Менавіта гэтая кніга стала першай прыступкай у авалоданні ведамі, дзякуючы якім людзі трапілі ў космас, праніклі ў таямніцы атамнага ядра, навучыліся перамагаць шматлікія хваробы, будаваць, ствараць кампутары. Творчыя дасягненні лаўрэатаў самых прэстыжных прэмій, акадэмікаў, акцёраў, пісьменнікаў, настаўнікаў, урачоў, прадстаўнікоў тысяч іншых прафесій, носьбітаў многіх ганаровых званняў пачыналіся з буквара – зыходнага пункта на доўгім, цяжкім і адказным шляху ў краіну ведаў.

Куцеінскаму буквару – знакамітаму продку сучасных падручнікаў – сёлета спаўняецца 370 гадоў. Гісторыя яго стварэння звязана з дзейнасцю друкарні Куцеінскага манастыра і імем першадрукара Спірыдона Собаля – руплівца айчыннай духоўнасці, годнага прадаўжальніка справы Скарыны.

Біяграфічных звестак пра С. Собаля захавалася вельмі мала. Невядомы нават год яго нараджэння. Калі казаць пра месца нараджэння, то дакладна вызначана, што нарадзіўся славуты друкар у Магілёве ў сям'і мясцовага купца Багдана Собаля.

Вядома і тое, што ў 1628 годзе ў друкарні Кіева-Пячорскай лаўры Собаль выдаў адразу тры кнігі. Гэта патрабавала вялікай падрыхтоўчай работы, таму можна меркаваць, што ў Кіеў друкар прыехаў значна раней. Тут сустрэў шмат аднадумцаў. Відавочна ён стаў сябрам знакамітага асветніцкага гуртка заснаванага архімандрытам Кіева-Пячорскай лаўры Елісеем Пляцінецкім. У розныя часы ў яго склад уваходзілі Лаўрэнці Зізаній, Мялеці Сматрыцкі, Іоў Барэцкі, Памва Бярында. З апошнім Собаль працягваў падтрымліваць адносіны і пасля таго, як пакінуў Кіеў. Ускосныя доказы сведчаць пра тое, што знакаміты духоўны паэт і драматург наведаў Куцеінскі манастыр, дзе сустрэўся з сваімі добрымі знаёмымі Собалем і Трунцэвічам.

Пад уплывам заснавальніка гуртка і яго паслядоўніка старабеларускага пісьменніка-тэолага Захарыя Капысценскага гурткоўцы ў сваіх друкаваных выданнях "вельмі ахвотна карысталіся старабеларускаю моваю". Гэтая акалічнасць вызначыла адносіны друкара да роднай мовы на ўсё астатняе жыццё.

Кнігі Спірыдона Собаля былі добра вядомы на Радзіме. І калі ў 1630 годзе на ўскраіне Оршы ўзнікла Куцеінская друкарня, заснавальнікі звярнуліся да Собаля з прапановай яе ўзначаліць. Манастыр ветліва сустрэў маладога таленавітага друкара. Дзякуючы намаганням ігумена Іеіля Труцэвіча, вялікай матэрыяльнай падтрымцы багатага феадала Багдана Статкевіча яму стварылі добрыя ўмовы для работы. Частку друкарскага абсталявання Собаль прывёз у Куцейну з Кіева. Былі сярод іншага і дошкі-застаўкі якімі карыстаўся Іван Федаровіч. Тое, чаго не хапала зрабілі манахі і жыхары горада.

Собаль высока цаніў "Азбуку", выдадзеную І. Федаровічам. Разумеючы патрэбнасць гэтай кнігі, друкар марыў стварыць і сваю "Азбуку". Аднак першымі кнігамі, якія Собаль выдаў у Куцеінскай друкарні, былі "Брашна духоўная" і "Малітваслоў". Толькі пасля іх выхаду пачалася падрыхтоўка той асноўнай, аб якой ён толькі марыў, якой жыў і якая лепш за іншых павінна была паслужыць справе захавання роднай мовы. Нарэшце ўсё было гатова. Заставалася толькі даць назву кнізе над якой так доўга працаваў. Прыгадалася: знаўцаў пісьма і тых, хто вучыў гэтаму іншых, у народзе нярэдка называлі букварамі. Дык чаму б не назваць так кнігу. Яна ж таксама вучыць!

Надышоў доўгачаканы дзень. Собаль даўжэй звычайнага затрымаўся ў манастырскім храме, дзе знаходзілася Аршанскі абраз Божай Маці, які "цудадзейным чынам быў з'яўлены" ў час пачатку будаўніцтва манастыра. Навуковец А. Яскевіч адзначыла, што ў час цяжкіх выпрабаванняў, звязаных "з наладжваннем выдавецкай справы ад цудадзейнага абраза Аршанскага Спірыдон Собаль атрымаў падтрымку і суцяшэнне. Ён неадноўчы і пазней з'яўлялася друкару ў празрыстым сне". Ён выйшаў і не хаваючы хвалявання накіраваўся ў друкарню. Ля ўваходу сабраліся куцеінскія манахі і мясцовыя жыхары. У самой друкарні яго ўжо чакалі бліжэйшыя памочнікі і вучні. Атрымаўшы дабраславенне ад ігумена, Собаль упэўнена падышоў да варштата...

Праз некалькі хвілін ён выйшаў на ганак і высока падняў адбітак тытульнага аркуша. Свежая фарба зіхацела на сонцы. Уверсе буйнымі літарамі было надрукавана: "БУКВАР", ніжэй літарамі значна меншымі: "Сиречь начало учения детям начинающим чтению извыкати". У цэнтры старонкі і ў самым нізе друкаваліся выхадныя дадзеныя: "В Кутейне изобразися в типографии Спиридона Соболя. Року 1631". Пройдуць стагоддзі – і вучоны-даследчык Джон Сіманс скажа: "Гонар першага ўжывання слова "Буквар" на тытульным аркушы належыць, напэўна, Собалю: "Букваром" называецца яго куцеінская кніга 1631 года".


БꙊКВАРЪ
Сирѣчь,
НАЧАЛО ꙊЧЕНІЯ
Дѣтемъ начинающимъ чтенію
извыкати.
в Кꙋтеинѣ
изобразися.
в Тѵпографіи
СПИРИДОНА
СОБОЛА.
Рокꙋ, ахлѧ.

"Буквар" меў 40 старонак і быў надрукаваны ў адну дванаццатую частку аркуша. Пачынаўся і канчаўся ён малітвай. На другой старонцы пад загалоўкам "Азбука языка словенского" змяшчаўся алфавіт, 44 літары якога, вялікія і малыя, спачатку друкаваліся ў звычайным, а затым у адваротным парадку. Далей ішлі двухлітарныя склады (ба, ва, га, да... бе, ве, ге, де... бо, во, го, до...). Тут трэба адзначыць, што С. Собаль у сваім "Буквары" праявіў сапраўднае наватарства, упершыню падабраўшы і змясціўшы трохлітарныя склады, як самастойныя словы (*рай, май, мне*...). Далей ішлі словы на асобныя літары, якія ў асноўным былі царкоўнага зместу (Г-господь, Д-дух, душа, И-Иерусалим, Иисус, К-крещение...). Ёсць у падручніку звесткі аб націску, аб знаках прыпынку, аб скланенні назоўнікаў і прыметнікаў. Тагачасныя вучні маглі атрымаць веды аб дзеясловах, дзеепрыметніках і дзеепрыслоўях. У дапаможніку змешчана табліца пяці скланенняў старaславянскай мовы.

Спірыдон Собаль, як і яго папярэднікі, разумеў неабходнасць зацвярджэння прынцыпу адзінства навучання і выхавання. Асобны раздзел "Буквара" пад назвай "Десятословие сиречь десять заповедей Ветхого завета" прысвечаны агульнавядомым хрысціянскім запаведзям, якія накіраваны на выхаванне высокіх маральных прынцыпаў.

Адзначаюць даследчыкі старадруку і адмысловыя аздабленні кнігі. Так, на адваротным баку тытульнай старонкі можна ўбачыць гравюру Ісуса Хрыста. Ёсць у кнізе і выява Маці Божай з маленькім Ісусам на каленях. У застаўках, канцоўках і шматлікіх ініцыялах шырока выкарыстоўваецца раслінны арнамент. Беларускі гісторык, даследчык дзейнасці айчынных друкароў і выдаўцоў М. Батвіннік адзначыў, што на думку Собаля, аздабленне павінна падабацца вучню і яго бацькам, прыцягваць знешнім выглядам, абуджаць цягу да ведаў".

У канцы жыцця прадаўжальнік справы Скарыны, перакладчык кніг з рускай, грэчаскай, лацінскай і польскай моў на беларускую пастрыгся ў манахі Кіева-Пячорскага манастыра, атрымаўшы імя Сільвестр. Памёр стваральнік знакамітага Куцеінскага "Буквара" у 1645 годзе.

Лёс Куцеінскай друкарні аказаўся больш шчаслівым, чым лёс аднаго з яе стваральнікаў. Друкаванне кніг у манастыры працягвалася пад кіраўніцтвам І. Труцэвіча яшчэ чвэрць стагоддзя. У 1654 годзе па загаду патрыярха Нікана друкарня была пераведзена пад Ноўгарад у Іверскі манастыр, а затым у – Нова-Іерусалімскі, што на Істры. У Маскве аршанскія друкары працавалі пад кіраўніцтвам Сімяёна Полацкага.

Куцеінскаму "Буквару" – 370 гадоў. Цяжка пераацаніць ролю, якую адыграў ён у барацьбе за захаванне роднай мовы, у яе шырокай прапагандзе. Падручнік быў шырока вядомы ў Маскве, гарадах сённяшняй Украіны і Літвы. Больш таго, факты сведчаць, што па куцеінскаму "Буквару" вучыліся нават іншаземцы. Так, у Гістарычным музеі ў Маскве захоўваецца экзэмпляр, на якім шмат паметак на англійскай і нямецкай мовах.

У дні рэспубліканскага Свята беларускай пісьменнасці і друку, якое праходзіла ў Оршы, на будынку Свята-Духаўскай царквы Куцеінскага манастыра ў гонар Спірыдона Собаля была аткрыта мемарыяльная дошка.

*Ігар ЯРШОЎ,*
*выкладчык гісторыі Аршанскага педкаледжа.*




Вялікая колькасць старадрукаў захоўваецца ў фондах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі імя Якуба Коласа. Тут ёсць выданне 1493 года, выданні Пятра Мсціслаўца і Івана Федаровіча ды інш.

**На здымку:** стэнд экспазіцыі "Кніжныя скарбы бібліятэкі.

Фота Генадзя Сямёнава, БелТА.

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 1. 10. 2001 г.
Наклад 3800 асобнікаў. Замова № 2288.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 302 руб., 3 мес.- 906 руб.
*Кошт у розніцу:* 80 руб.